# Залеская талака

*Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра / №2 / жнівень 2011*


Анонс падзеі

## ЗАПРАШАЕ ЗАЛЕССЕ



6 жніўня гэтага года ў вёсцы Залессе пройдзе чарговы фестываль-кірмаш “Залессе запрашае сяброў”. Да ўдзелу ў святе запрашаем майстроў народнай творчасці, калектывы мастацкай самадзейнасці і ўсіх, хто жадае цікава і змястоўна правесці гэты дзень.
На святе вы зможаце набыць вырабы мясцовых майстроў, адведаць стравы залескіх гаспадыняў, пачаставацца напоямі і адварамі народнай кухні, падсілкавацца салам, яйкамі, поліўкай. Будзе таксама шанец паглядзець выступленні мясцовых калектываў мастацкай самадзейнасці і сольных выканаўцаў, а таксама гасцей з Польшчы (этнаграфічны калектыў “Цаглінкі”), Масквы (фальклорны гурт “Кірмаш”), Віцебска (калектыў мастацкай самадзейнасці “Віцебскаблгаз”) і суседніх Жодзішак (гурт песні і танца “Вечарынка” Жодзішкаўскага ЦДК).
Жыхары Залесся запросяць гасцей у свае імправізаваныя падворкі.
**Пачатак свята ў 12.00. Сардэчна запрашаем!**

*Арганізацыйны камітэт*

Постфактум

## Прэзентацыя Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра

5 ліпеня ў будынку Залескай школы-сада адбыўся “круглы стол”. Тэма - прэзентацыя Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра. Мерапрыемства было арганізавана мінскім фондам “Жывое партнёрства” і пярвічнай арганізацыяй “Сяльчанка” грамадскага аб’яднання “Беларускі саюз жанчын” пры падтрымцы Залескага сельсавета, Смаргонскага райвыканкама і Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Беларусі.
Мэтай Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра з’яўляецца паляпшэнне жыцця мясцовых жыхароў, дапамога ў арганізацыі працы і адпачынку, заахвочванне ініцыятываў вяскоўцаў, у тым ліку - актыўных пенсіянераў. У бліжэйшы час плануецца пабудова дзіцячай пляцоўкі ў Залессі. Гэта вельмі важны праект, месца для адпачынку маладых матуляў з дзеткамі.
Цэнтр створаны, памяшканне для яго выдзелена ў будынку сельскага савета (былы кабінет участковага). Што патрабуецца ад жыхароў Залесся? Падумаць, праявіць ініцыятыву і папрацаваць з карысцю для сябе і роднай вёскі!

*Дар’я Ліс*

Навіны сельвыканкама

24 чэрвеня паседжанне сельвыканкама было прысвечана працы землеўпарадкавальнай службы па выкананні заканадаўства аб ахове і выкарыстанні зямель на тэрыторыі Залескага с/с.
**Былі прынятыя наступныя рашэнні.**
Працягваць працу па навядзенні парадку на зямлі. Даручыць старастам вёсак інфармаваць насельніцтва пра своечасовы абкос тэрыторыі і падтрыманне парадку гаспадарамі дамаўладанняў. Узмацніць кантроль за санітарным станам вёсак, могілак, сметнікаў.



*Удзельнікі круглага стала*

Культурнае жыццё

# Купалле ў Залессі



У летнюю ночку купальскую ў Залессі традыцыйна праводзіцца народнае свята Купалле. У гэтым годзе надвор'е вельмі паспрыяла арганізатарам, удзельнікам і, нагогул, усім гасцям, якія прыехалі да нас у Залессе са Смаргоні, Маладзечна, Мінску і іншых куткоў Беларусі. Напярэдадні ўсю ноч ліў дождж, а 6 ліпеня з-за хмар падвячоракам паказалася сонейка, якое падарыла цудоўны настрой усім прысутным.

Па старадаўняму народнаму паданню у купальскім гушчары расцвітае дзівосная кветка папараці. І той, хто яе знойдзе, будзе самым шчаслівым у свеце. Арганізатары свята (работнікі Залескага ЦДК) стараліся не парушаць гэту паэтычную традыцыйную аснову свята. Мастацкі кіраўнік Аксана Ліс падрыхтавала цікавую праграму, выкарыстоўваючы сучасныя тэхнічныя сродкі, гукаўзмацняльную апаратуру, асвятленне. Па сцэнарыю галоўны герой свята Купаліш (студэнт БНТУ Маркевіч Дзмітрый) і Купалінка (медсястра Залескай амбулаторыі Чартовіч Наталля) разам з сябрамі і сяброўкамі змагаліся з цемнымі сіламі: ведзьмай, лясуном, трасавіцай, чортам, русалкамі. Як заўседы ў беларускім фальклоры, дабро і каханне перамаглі цемныя сілы.



У гэтую цудоўную ноч гучалі прыгожыя купальскія спевы ў выкананні Залескага вакальнага гурта "Заляснянка". Дзяўчаты і хлопцы, прыбраныя ў нацыянальныя беларускія строі, радавалі ўсіх прысутных разнастайнымі танцамі. Усе жадаючыя таксама змаглі паўдзельнічаць у праграме: гулялі ў купальскія гульні, варажылі на сваю долю, вадзілі карагоды ля вогнішча. Работнікі ЦДК вельмі удзячныя старшыні сельвыканкама Грышкевічу З.З., дырэктару ААТ "Смаргоньлен" Казакевічу Дз.Дз., Дырэктару ТАА "Эліс" Лісу А. П. за дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства.

Мы спадзяемся, што старажытнае народнае свята летняга сонцастаяння ў Залессі з кожным годам будзе заваёўваць ўсе большую папулярнасць у нашым раёне і за яго межамі!

*Таццяна Нісцюрына*

# Нефармальны канцэрт у Паўночных Афінах



24 ліпеня ў парку Агінскага ля альтанкі Амеліі можна было сустрэць цікавых людзей, паслухаць цікавую музыку і нават патанчыць! Гралі капэла Алеся Лася і гурт “Рада”, а сябры моладзевага грамадскага аб’яднання “Гісторыка” вучылі гасцей свята (іх сабралася каля ста чалавек) танчыць напаўзабытыя беларускія танцы. Сяргей Верамейчык вёў імпрэзу, адной з добрых нагодаў для якой стала "другое нараджэнне" Міхала Клеафаса Агінскага 217 год таму. Справа была такая… 1794 год. Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі. Менавіта тады ў баі пад Вішневам Агінскага выратаваў афіцэр Пятро Паўловіч... Дзякуючы гэтаму, Агінскі напісаў знакаміты паланэз “Развітанне з Радзімай”, які стаў “фішкай” не толькі Залесся, але і ўсёй Беларусі.

*Дар’я Ліс*







Заснавальнік ГА "Сяльчанка" /адрас: в. Залессе, вул. Чыгуначная. Галоўны рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375 29 655 30 13
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна “Пры падтрымцы Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь”.